


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 20 (20). Слонім. 17 кастрычніка - 23 кастрычніка 1997г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Цана 3 тыс. руб.


Увага! 8 палосаў «Інфарибюро», расклад руху гарадскога транспарту.

Навіны

## Пейджинговая связь в Слониме

**Почти два года в Слониме действует пейджинговая связь.**

Диспетчерская и передатчики находятся на местном телевизионном ретрансляторе. Правда, пока услугами пейджинговой связи пользуются только пять абонентов, да и то россияне, которые строят газопровод Ямал-Западная Европа. Тем не менее, как сказали корреспонденту «ГС» представители гродненской фирмы, которая осуществляет пейджинговую связь, некоторые слонимчане также хотели бы иметь мобильные аппараты. Однако, в фирме сейчас нет в наличии пейджеров.

А.М.

## Думкі падзяліліся

**12 кастрычніка ў Слоніме адбыўся пікет, арганізаваны «Маладым Фронтам».**

У адпаведнасці з рашэннем гарадскіх уладаў, пікетоўшчыкаў было 10 чалавек. Яны трымалі плакаты з эканамічнымі і палітычнымі лозунгамі: «Як выжыць маладым, калі няма працы і жылля?», «Кожнаму чалавеку - дастойнае жыццё!» і іншыя. Адначасова пікетчыкі збіралі подпісы пад зваротам «Да грамадскасці Рэспублікі Беларусь» з патрабаваннем адстаўкі ўрада разам з прэзідэнтам. Усяго падпісалася каля 45 чалавек.

Пікет выклікаў розную рэакцыю слонімцаў. Адны згаджаліся з лозунгамі, іншыя — не. Былі і такія, хто нават абяцаў пікетоўшчыкаў «саслаць у Сібір».

Алег ТАЧОНЫ

## Тэатр на колах

**У верасні каля шасці тысяч чалавек пагледзелі спектаклі Слонімскага беларускага драмтэатра.**

Дарослыя аматары сцэнічнага мастацтва ўбачылі спектаклі «Жаніцьба Бальзамінава» і «Камедыя». А вось дзецям больш пашанцавала. Для іх у рэпертуары тэатра значыцца аж чатыры пастаноўкі, з якімі таксама пазнаёміліся юныя гледачы Зэльвы, Мастоў, Навагрудка, Ліды, Салігорска, Слуцка і іншых гарадоў Беларусі.

У другой палове кастрычніка тэатр пакажа свае спектаклі ў Стоўбцах, Баранавічах, Пінску і Росі.

Цяпер рэжысёры тэатра Мікалай Варвашэвіч, Васіль Сівец і Віктар Небальсін працуюць над новымі пастаноўкамі для дзяцей. А Мікалай Варвашэвіч, плюс да ўсяго, яшчэ рыхтуе сучасную камедыю для дарослых «Мы ідзём глядзець «Чапаева».

Сяргей ЧЫГРЫН

## Слонімцы любяць чытаць

**Сёння на Слонімшчыне працуюць 45 бібліятэк, з якіх 7 гарадскіх і 38 сельскіх. Яны абслугоўваюць каля 37 тысяч чалавек.**

У чытачоў найбольшай папулярнасцю карыстаюцца кнігі з серый: дэтэктывы, фантастыка, прыгоды.

Аднак, па словах дырэктара цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Ларысы Рапінскай, усё ж найбольшым попытам у чытачоў карыстаецца перыядычны друк. Бо сёння не кожны чалавек можа сабе дазволіць выпісаць некалькі газет, не гаворачы ўжо пра часопісы. А ў бібліятэках ёсць выдатны іх выбар. Дарэчы, па колькасці назоваў перыядычных выданняў, якія паступаюць у нашы бібліятэкі, Слонім займае трэцяе месца ў вобласці.

Алег ТАЧОНЫ

Устаць. Суд ідзе.

## Цана жыцця

У аўторак, 14 кастрычніка, у народным судзе распачаўся працэс над 31-гадовым Сяргеем Кандзірандам.

Ён абвінавачваецца ў забойстве 69-гадовай жыхаркі Слоніма Таццяны Панасік.

Нагадаем, што вясной гэтага года часткі яе цела былі знойдзены міліцыяй у трох месцах каля вёскі Касцяні. Пад час следства высвятлілася, што падсудны спачатку жанчыну забіў, а потым, падзяліўшы цела на часткі, вывез за горад і закапаў. Прычынай жахлівага забойства сталі грошы. Кандзіранда пазычыў у сваёй ахвяры, прыкладна, 7 тысяч долараў. А вось аддаваць не захацеў.

Меру пакарання Кандзірандзе вынясе абласны суд, які разглядае яго справу.

Валодзя ЯНЧУК

Горад

## Хочется тепла

«Бабье лето» внесло небольшие коррективы и на улице как бы потеплело. Однако, душа и тело, избалованные летним зноем, требуют тепла и в прохладных квартирах. Только вот отопительные батареи могут задышать долгожданным теплом в том случае, если на улице температура воздуха понизится до 8 градусов и на таком уровне удержится на протяжении 5 дней. Тем не менее первый заместитель председателя горисполкома Александр Конон заметил корреспонденту «ГС», что «если будет холодно, то затопим и 15 октября».

Анатолий МИРСКИЙ




А.К

Афіцыйна

## Год усеагульнага страхавання

**З 1-га студзеня 1998 года ў Беларусі ўводзіцца абавязковае страхаванне прыватных жылых дамоў і гаспадарчых пабудоў.**

Менавіта так вырашыў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, падпісаўшы на мінулым тыдні дэкрэт «Аб абавязковым страхаванні будынкаў, што належаць грамадзянам». Цяпер, як у былыя добрыя савецкія часы, хоча таго чалавек альбо не, павінен абавязкова заплаціць страхоўку за хату, хлеў, кулатнік. Падлічана, што калі дом ацэнены ў памеры 60 млн.рублёў, то яго ўладальнік павінен выплаціць ад гэтай сумы 0,5% страхавога збору — 300 тысяч рублёў.

Ад абавязковага страхавання будуць вызваляцца толькі тыя гаспадары, у якіх даход на аднаго члена сям'і прыпадае меней за дзве мінімальныя зарплаты.

Наталля ФУРСАВА

## Новым декретом ударим по бюрократизму

**Похоже на то, что в ближайшем будущем все обиженные на местах смогут пожаловаться высшему начальству только через посредника.**

Оказывается, государственно-правовое управление администрации президента разработало новый проект президентского декрета с рабочим названием «О минимизации бюрократизма». Появление этого документа вызвано тем, что огромное количество жалоб и обращений граждан мешают эффективно работать чиновникам государственного аппарата. Поэтому, чтобы исправить это положение, в Беларуси будет создана «система народного представительства во главе с представителем всего народа — президентом РБ», — говорится в документе.

Согласно проекта нового декрета, народное представительство будет иметь три уровня: районный, областной и президентский. Если этот декрет приобретет законную силу, то граждане будут лишены своего права на личные или коллективные обращения в государственные органы. Со своими жалобами им придется бить челом перед местным районным ходатаем, который будет выбираться трудовыми коллективами, организациями и учреждениями. Народному представителю будут предоставлены широкие полномочия. В частности, он в любое время может быть принят любым чиновником своего уровня, от которого получит требуемую информацию в самые короткие сроки. Ходатай получит иммунитет неприкосновенности, за ним также сохраняется прежнее место работы и заработок.

По мнению авторов проекта декрета, новая система по работе с жалобами и обращениями граждан должна принести заметные плоды и в борьбе с государственным бюрократизмом.

Наталья ФУРСОВА

## Кодекс чести

**14 октября на очередном заседании Координационного совета офицерских собраний Вооруженных сил Беларуси обсуждался проект Кодекса чести офицеров белорусской армии.**

По мнению участников заседания, Кодекс чести должен представлять собой не клятву офицеров, а свод определенных правил. Принято также решение о завершении к 1 февраля 1998 года отчетов и выборов в офицерских собраниях частей и соединений белорусской армии.

БелаПАН

## На 68 фирм стало меньше

В соответствии с Указом президента №208 в Слониме и районе ликвидировано 68 частных фирм и кооперативов.

Как заявила корреспонденту «ГС» начальник управления по экономике и рыночным отношениям горисполкома Раиса Качук, все эти субъекты хозяйствования не прошли перерегистрацию в связи с допущенными нарушениями.

Анатолий МИРСКИЙ

## На зимний период

Сейчас в слонимской механизированной бригаде начался перевод техники и вооружений на осенне-зимний период эксплуатации.

Работы по обслуживанию техники и вооружений продлятся в частях и соединениях до конца октября.

Михаил ОКУЛКО

## Фіналісты тэлеконкурсу

Нядаўна сталі вядомы фіналісты тэлевізійнага конкурсу «Усе мы родам з дзяцінства», які адбудзецца ў наступным годзе 1 чэрвеня. Прыемна, што ў ім прымуць удзел і юныя слонімскія артысты. Гэта вакалістка Вольга Дамброўская і танцавальны ансамбль «Золак», якім кіруе Жанна Гундар (СШ№2). А таксама трыо Ларысы Юрык у складзе Ірыны Якуцэні, Ірыны Сундуковай і Наталлі Ефімовіч з восьмай сярэдняй школы.

Сяргей ЧЫГРЫН

Здарэнні

## Закусіць хацелі свежанінай

Жыхар суседняй краіны Ш., прыехаўшы адпачыць у родную вёску Збочна, вырашыў сустрэчу са сваім даўнім сябруком адзначыць па-багатаму. З грашыма бракавала. Таму спачатку ён абабраў магазін у Зэльвенскім раёне, дзе пажывіўся гарэлкай. А вось закуску сябрукі вырашылі здабыць па месцу жыхарства. Ноччу яны залезлі на свінаферму вёскі Драпава, закінулі на двухколку 80-кілаграмовую свінню і павалаклі дахаты. Свінні, відаць, так спадабалася ехаць на брычцы, што за ўсю дарогу яна ні разу не піснула. Вячэра магла быць выдатнай, каб не перашкодзілі работнікі міліцыі, якія затрымалі злодзеяў.

Зэльвенская міліцыя шчыра падзякавала слонімскім калегам, якія дапамаглі знайсці рабаўніка крамы.

## Боезапас хаваў на кватэры

Днямі аператыўнікі ГРАУС канфіскавалі дзвесце баявых патронаў да аўтамата Калашнікава ў жыхара Слоніма, які жыве па вуліцы Касаўскі тракт.

## Крымінальны мак

У апошні час міліцыя актывізавала барацьбу з нарказманамі.

Толькі за тры дні з 10 па 13 кастрычніка наркатычнае зелле было выяўлена ў чатырох жыхароў горада. Напрыклад, жыхарка з вуліцы Шчорса, захоўвала на кватэры адзін кілаграм макавай саломкі.

## А прыйшоў нібыта ў госці

Высвятляецца, што да цешчы зяці ходзяць не толькі на бліны.

У мінулую нядзелю, 12 кастрычніка, слонімец А. наведаўся да сваёй любай цешчы, якая жыве на Мінскім тракце.

Чым яна яго ўгнявіла, пакуль невядома, аднак візіт закончыўся тым, што А. моцна адлупцаваў жанчыну.

Дасталося таксама жонцы і цесцю, якія спрабавалі абараніць жанчыну.

Дарэчы, у гэтым годзе ў выніку сямейных сварак зафіксавана адно забойства і дзесяць чалавек атрымалі цялесныя пашкоджанні розных ступеняў цяжкасці.

## Начны пажар

У ноч з 14 на 15 кастрычніка ў вёсцы Львоўшчына здарыўся пажар.

Дзякуючы аператыўным дзеянням байцоў асобнага пажарнага паста з в. Дзеравной, агонь знішчыў толькі дах хаты.

Валянцін ЧУРЫЛА

Спорт

## Яшчэ адна перамога «Таланта»

Слонімскі юнацкі футбольны клуб «Талант-Дынама» заняў другое месца ў турніры «Восень-97», які праходзіў у Гродна.

Руслан КОРНЕЎ

ГІСТОРЫЯ *Неразгаданая тайна*

# Хто ж быў рэдактарам даваеннай «Газеты Слонімскай»?

На сённяшні дзень у Слоніме захавалася толькі два нумары «GS» ад 25.12.1938 і 1.1.1939 г.г., якія знаходзяцца ў архіве народнага музея СШ №4. У іх выходных дадзеных пазначана, што рэдактарам і выдаўцом газеты была Людміла Новік, якая пражывала на вуліцы Агароднай, 8 (цяпер Багушэвіча). Высвятляецца, што Людміла была жонкай беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна (1906-1994).

У Слонім Сяргей Новік прыехаў восенню 1931 года, пасля вяртання з пяцігадовай высылкі, якую ён адбываў на Памор'і (Польшча) за беларускую патрыятычную дзейнасць. У родных Лявонавічах (Нясвіжскі раён) яму не дазволілі пасяліцца, бо побач была польска-савецкая мяжа. Таму паэта адправілі пад нагляд паліцыі ў Слонім, за 105 кіламетраў ад мяжы. У выніку наш горад стаў для яго другой высылкай...

Пакуль мала што вядома пра яго жонку Людку, так яе называлі суседзі і знаёмыя. Была яна каталіцкага веравызнання і пад яе ўплывам стаў каталіком і Сяргей. У той час паэт наладжвае добрыя кантакты са слонімскімі каталіцкімі коламі, распаўсюджвае рэлігійны часопіс «Rycerz Niepokolanej». Ён шмат працуе, шукае любую магчымасць, каб зарабіць трохі грошай. У Сяргея і Людмілы нарадзіліся дзве дзяўчынкі.


Сяргей Новік


Людміла Новік

Хутчэй за ўсё, выдаваць «Gazetu Slonimsku», была ідэя Сяргея Новіка. Сам ён не мог атрымаць дазвол у польскіх уладаў на яе друкаванне. Таму прыйшлося рэгістраваць газету на імя жонкі. У нейкага фундатара знайшоў грошы, заахвоціў да супрацоўніцтва рэкламадаўцаў. Пакуль невядома да якога часу выходзіла «GS». Не выключана магчымасць, што выданне газеты было спынена ў сакавіку (а не ў верасні, як мы меркавалі раней) 1939 года, менавіта тады Сяргея Новіка арыштавала паліцыя. На волю ён выйшаў толькі ў верасні 1939 года.

А напрыканцы 1943 года Сяргей Новік-Пяюн, у той час дырэктар Слонімскага краязнаўчага музея, быў арыштаваны фашыстамі. Ён спрабаваў выратаваць жонку і дзяцей, зрабіўшы фіктыўны развод. Не дапамагло. Людміла таксама апынулася ў Слонімскай турме, а пасля ў Калдычэўскім канцлагеры (каля Баранавіч), і загінула... Дзеці ўцалелі. Іх выхавала бабуля. Цяпер яны жывуць у Польшчы.

Сяргей Новік-Пяюн у пасляваенны час ніколі не ўспамінаў пра сваё дачыненне да выдання «Gazety Slonimskiej». Відаць, толькі архіўныя дакументы могуць раскрыць гэтую, не да канца разгаданую, тайну.

**Сяргей ЁРШ**

*Здымкі з архіва сям'і Лойкаў.*

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ

# Хай дзеткі не хварэюць

Цяпер у Слонімскай дзіцячай паліклініцы, дзе на ўліку стаіць каля 17 тысяч дзяцей, працуюць 33 урача. Праўда, як адзначыла ў гутарцы з нашым карэспандэнтам загадчыца паліклінікі Людміла Дзягель, педыятраў не хапае ў дзіцячых дашкольных установах.

Што датычыць захворванняў, дык у параўнанні з мінулымі гадамі, яны не павялічыліся. За выключэннем хіба хворых на шчытападобную залозу. А так, звычайна, летам дзеці хварэюць на страўнікава-кішэчныя захворванні, а восенню — на прастудныя. Для хуткага і дакладнага выяўлення хваробаў у дзіцячай паліклініцы цяпер плануецца ўстанавіць новую дыягнастычную апаратуру.

**Міхась АКУЛКА**



ШТО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС

**За мінулы тыдзень у Слонімскім ЗАГСе зарэгістравана адзінаццаць дзетак, якія нядаўна нарадзіліся:**

**Сакалоўская Каця**
**Шатчанка Рыта**
**Амбарцумян Лусія**
**Камчыц Віка**
**Зіміна Вераніка**
**Снітко Віка**
**Анхім Паліна**
**Валюкевіч Віка**
**Яраш Таня**
**Рамановіч Арцём**
**Парфеня Валерыя**

***Віншуем!***

А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК...

# Снарад

Дзень набліжаўся да поўдня. Стаяла невыносная спякота. Усе былі ў полі — ішоў трэці тыдзень жніва. Старыя ды малыя жыхары вёскі Тартакі сядзелі ў цяні, чакаючы з пашы кароў. Толькі сямідзесяцігадовы Кастусь раз за разам цягаў са студні ў гумно ваду. Вяскоўцы ведалі, што стары гоніць самагонку.

Нечакана пачуўся грукат колаў па бруку і ўсе ўбачылі, што хлапчукі валаклі на двухколцы вялікі артылерыйскі снарад. Старая Антоля, убачыўшы сярод падлеткаў свайго цыбатага ўнучка Косціка, гучна запытала: «Дзе вы ўзялі гэту жалязяку?»

—Ды, у яме, за вёскай, дзе капаюць пясок!— прагучаў адказ.

—І куды валочыце?— прадаўжала Антоля.

—А так, яшчэ не ведаем!

У гэты момант у вёску на сваім рабым кані ўехаў «ганучнік» Рыгор Сухоцкі, па мянушцы «Аполак». Рыгор залямантаваў на ўсю вёску:

—Бабы, здавай ганучы!

Тут падлеткі падвалаклі двухколку бліжэй да Рыгоравага воза.

—Прымайце, дзядзька, метал і дайце за яго цукерак!— зашчабяталі дзеці.

Рыгор — стары ваяка, які прайшоў усю вайну аж да Берліна, заўважыў:

—Так, кілаграмаў трыццаць каляровага металу тут будзе.



Але ж капсул снарада цэлы, а гэтае жалеза можа так рвануць, што ад воза і ад каня нічога не застанецца.

І, адштурхнуўшы хлапчукоў далей ад воза, крыкнуў:

—Цягніце яго адсюль, ад бяды далей!

Падлеткі збянтэжыліся...Праз момант кульгавая Міхаліна ўнесла яснасць:

—Дурні, не ведаеце, што рабіць. Валачыце яго на Пляшывую горку, абкладзіце сухім ядлаўцом, падпаліце і ўцякайце!

Гэтая ідэя акрыліла малых і яны з шумам і гоманам павалаклі двухколку за вёску. Там хлапчукі паклалі снарад на каменне, закідалі яго сухім галлём, падпалілі, а самі кінуліся наўцёкі.

Неўзабаве так грымнула, што старыя аж перахрысціліся, а Антоля на ўсё горла пачала клікаць унучка Косціка.

Хутка грымнула і ў Кастусёвым гумне.

Праз паўгадзіну са Слоніма прыехалі пажарныя. Гумно, зробленае з сухіх асінавых бярвенняў, ужо дагарала. Кастусь, бегаючы вакол папялішча, тлумачыў пажарным, што гэта ўсё зрабіў той самы снарад. Аднак адзін малады пажарны паднёс да Кастуся змеявідную трубку і прамовіў:

—Вінаваты, дзеду, не снарад, а самагонны апарат.

А яшчэ пазней вяскоўцы заўважылі, што вартаўнік Максім Матавіла раптоўна пачаў заікацца.

—Што нарабілася, Максім? — запыталі ў яго сяляне.

Максім расказваў, што ў той момант на Пляшывай горцы ў хвойніку ён таксама гнаў самагонку. Толькі пачаў "пяршак" капаць, як непадалёку моцна грымнула, аж у Максіма заклала вушы, і кадушка з брагай перакулілася.

«Каб ёй мазгі адсохлі, гэтай старой Міхаліне. Трэба ж было такому навучыць пацаноў!» — кляў потым цётку кантужаны дзед Матавіла.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**На «Газету Слонімскую» на лістапад і снежань яшчэ можна падпісацца да 20 кастрычніка ў любым паштовым аддзяленні.**

**Кошт падпіскі: 7000 рублёў на месяц.**

ВОТ ТАК И ЖИВЕМ

# Цена «минималки» у нас и у них?



Сегодня мы живем по расчетам новой минимальной заработной платы, которая сейчас составляет в месяц 200 тысяч рублей или 6,5 американских долларов. Тем временем, когда мы думаем и гадаем на что потратить эту сумму, в Англии идут дискуссии, сколько, по минимуму, нужно платить работнику — 5,5 или 7 долларов в час. Нам же предлагают за эти деньги ударно трудиться целый месяц.

В Бельгии «минималка» составляет 1333 доллара в месяц. В Голландии минимальная зарплата в размере 1234 доллара жестко привязана к индексу цен.

С 1994 года в Египте минимум был установлен в пределах 20 долларов. Но стоит отметить, что цены в стране крайне низкие. Чего не скажешь об Иордании, где нижний предел равен 140 долларам, что едва позволяет преодолеть черту бедности.

В Испании 394 доллара в месяц позволяют содержать семью. В Италии нижний предел зарплаты устанавливается отраслевыми соглашениями.

Непозавидуешь канадцам — официальный минимум в их стране не уточнялся с 1986 года: 3 доллара в час не позволяют подняться выше черты бедности.

С 1994 года в Кювейте минимум для граждан составляет 630 долларов в месяц, а для иностранных рабочих — 315.



12 процентов мексиканских работников имеют доход чуть больше 90 долларов. Большинство же имеют от 280 до 370 долларов.

Сингапур отличается не только тем, что не имеет закона о минимальной зарплате, но и тем , что здесь не платят пособие по безработице. Зато работающий человек имеет высокий уровень жизни.

Минимум в США к концу прошлого года был чуть более 5 долларов в час (836-860 долларов в месяц).

540 долларов никак не обеспечивают достойную жизнь Тайваня.

Туркам их 84 долларов хватает, чтобы не умереть с голоду.

Французы имеют, как минимум, 6,5 доллара в час, чего хватает на безбедное существование. К сказанному следует добавить, что как только рост цен переваливает за 2%, размер «минималки» уточняется.

Самый низкий доход в Швеции вместе с большим числом социальных льгот обеспечивает высокий уровень жизни.

В Японии закона о минимальной зарплате нет, но зато ее регулярно объявляет министерство труда — она обеспечивает высокий уровень жизни как самого работника, так и его семьи.

**Наталья ФУРСОВА**

СРАВНИТЕ

**В 1913 году столяр за дневной заработок мог купить более 23 килограммов говядины. Сколько же он на свою зарплату может купить сегодня?**

Сравните, задумайтесь... Нужно ли было «строить коммунизм», чтобы спустя восемьдесят с лишним лет удивляться цифрам 1913 года?

**Средняя зарплата рабочего в России за один день (1913 г.)**

| | |
|---|---|
| Столяр | 1 руб. 40 коп.—2 руб. 40 коп. |
| Плотник | 1 руб. 40 коп.—2 руб. 20 коп. |
| Каменщик | 1 руб. 40 коп.—2 руб. |
| Кровельщик, маляр | 1 руб. 20 коп.—1 руб 80 коп. |
| Кузнец | 1 руб. 20 коп.—1 руб. 70 коп. |
| Поденщик (чернорабочий) | 90 коп.—1 руб. 20 коп. |
| Поденщица | 50 коп.—1 руб. |

**Цены на некоторые продукты питания за 1 фунт в Москве (1913 г.) 1 фунт — 454 гр.**

| | |
|---|---|
| Хлеб пшеничный | 4—7 коп. |
| Хлеб ржаной | 2,5—3,5 коп. |
| Говядина | 6—35 коп. |
| Телятина | 10—60 коп. |
| Свинина | 11—28 коп. |
| Осетрина | 27 коп.—1 руб. |
| Судак | 13—50 коп. |
| Окунь (речной) | 12—35 коп. |
| Масло сливочное | 40—60 коп. |
| Сахар | 14—15 коп. |
| Яйца (100 штук) | 2 руб. 20 коп.—4 руб. 20 коп. |

# «...У моего сына должен быть отец»

Слонимчанка Наташа Р., решилась родить ребенка, когда ей было всего 14 лет.

Она забеременела в 7-ом классе. Ее 20-летний парень, когда узнал об этом, заявил, что никакого отношения к будущему ребенку не имеет и жениться не собирается.

**—А как отнеслись к этому твои родители?**

—Для них самое главное то, что думают о них соседи и знакомые. Поэтому о ребенке не могло быть и речи. Они категорически настаивали на том, чтобы я сделала аборт. Но мне не хотелось убивать ребенка. Свою помощь предложила бабушка. Я уехала к ней в Гродно, и там родила сына.

**—Тебе пришлось оставить школу?**

—К сожалению, да. Целый год я не училась. Но потом все равно закончила 8 и 9 классы в Гродно. Ни в слонимской школе, ни в новой не знали, что у меня есть ребенок. Его я оставляла с бабушкой, когда ходила на занятия.

**—Что для тебя было самым трудным?**

—Все трудности начались весной этого года, когда умерла бабушка. Не было денег, не с кем было оставить Олежку. А нужно было учиться, платить за квартиру, покупать еду и одежду.

**—На что же вы жили?**

—После бабушки остались некоторые запасы продуктов. К тому же она научила меня вязать, и я часто радовала



сынишку обновками. Сама же носила, что было куплено раньше. Соседи помогали деньгами и присматривали за малышом, когда я была в школе.

**—И у тебя на все хватало времени?**

—Я старалась, чтобы мой сын не только был накормлен, одет и обут, но и не выглядел хуже других детей. Сложнее всего было во время экзаменов. Учить приходилось по ночам, когда сын спал?

**—Все время ты не виделась со своими родителями?**

—Нет. Они даже не приехали на похороны бабушки. Прислали только деньги.

**—Как ты снова оказалась в Слониме?**

—В конце июня за мной в Гродно приехал отец и привез меня обратно. Потом он помог мне обменять на Слоним бабушкину однокомнатную квартиру, которую она описала на меня.

**—Наташа, а теперь ты поддерживаешь отношения с отцом твоего ребенка?**

—Мы случайно с ним встретились в Слониме. Он видел сына. Теперь приходит к нам в гости, приносит малышу игрушки, помогает материально. Он хочет жениться на мне и стать законным отцом Олежки. Мои родители против этого, но ведь у моего сына должен быть отец...

**Светлана КУПИЧ**

# «Свой шлях я выбраў канчаткова»



*Алесь Масюк*, 22 гады, рабочы, старшыня Слонімскай арганізацыі «Малады фронт».

**—Алесь, раскажы, якія мэты арганізацыі?**

—«Малады фронт» створаны ў верасні гэтага года, як рэспубліканскае добраахвотнае маладзёжнае аб'яднанне.

Галоўная мэта арганізацыі — аб'яднанне і выхаванне моладзі ў свеце беларускай нацыянальнай ідэі. Мы будзем садзейнічаць росту нацыянальнай свядомасці, духоўнаму і фізічнаму развіццю маладых людзей. «Малады фронт» прапагандуе беларускую мову, культуру, гісторыю, змагаецца за беларускія школы, якіх апошнім часам стала вельмі мала.

**—Хто можа стаць сябрам арганізацыі?**

—Кожны малады чалавек, які падзяляе нашы задачы і мэты, і гатовы ахвяраваць сваім вольным часам.

**—Якія ў вас дачыненні да БНФ?**

—Мы незалежная ад БНФ арганізацыя, маем паўнамоцтвы самастойна дзейнічаць і прымаць рашэнні, але з фронтам супрацоўнічаем.

**—Алесь, а калі ты пачаў займацца палітыкай?**

—Калі сутыкнуўся з несправядлівасцю, з хамствам начальства на працы і, зразумеў, што ў адзіночку вельмі цяжка абараніць свае правы. А вось, калі нас многа, тады мы можам пастаяць адзін за аднаго.

**—А табе не здаецца, што дабіцца той жа справядлівасці будзе не так проста. Можа лепш заняцца бізнесам ды зарабляць грошы?**

—Свой шлях я выбраў канчаткова і адступаць не збіраюся. Разам з тым, я вельмі ўдзячны сябрам нашай арганізацыі за іх адданасць справе.

**—Якая перспектыва ў «Маладога фронту»?**

—Мы імкнемся прыцягнуць у свае шэрагі як мага больш моладзі, бо менавіта яна будзе вырашаць лёс краіны, якую хочам бачыць вольнай, незалежнай, дэмакратычнай.

**Інтэрв'ю правёў Андрэй ТУРУК**

# Музыкальный рынок

Информацию о самых популярных альбомах и сборниках на компакт кассетах в Слониме «ГС» любезно предоставил Виталик. Его музыкальный киоск находится недалеко от городского рынка.

По его мнению просто сумашедшим спросом пользуются танцевальные сборники:

«Дай помечтать» ч.I, «Мелодии уходящего лета», «Радио хит» ч.II, в которых перемешаны в различных пропорциях М.Леонидов, В.Залкин, Л.Черникова, «Манго-манго», «Руки вверх», Ди-Бронкс&Натали и др.

Самые продаваемые альбомы:

«Кораблик любви» гр. «Фристайл», «Песни Владимира Залкина» В.Залкин.

Из англоязычных — спрашивают сборник из серии «Король дороги» ч.VI «Романтическое путешествие», который представлен: CHRIS NORMAN, THE BELOVED, F.R. DAVID, SAVAGE, DESIRELLIS, а также альбомы «Aquarium» гр. AQUA, «Best» KINGDOM COME.

Что касается видео, то особой популярностью среди слонимчан пользуются следующие фильмы:

«Пятый элемент», Брюс Уиллис.

«Прощальный поцелуй на ноч», Дж. Дэвис.

«Без лица», Ник. Кэйдж, Дж. Траволта.

**С.К.**




# «Кесарава кесараві»

На гэтым месцы мы спачатку планавалі апублікаваць інтэрв'ю і са старшынёй гарадской арганізацыі беларускага патрыятычнага саюза моладзі Наталляй Рагозік. Аднак, спадарыня Рагозік адмовілася расказаць нашым чытачам пра сваю арганізацыю, спаслаўшыся на тое, што ў яе, маўляў, ёсць свой «друкаваны орган».

# Такие общежития не забываются

Студенческие годы, пожалуй, самый удивительный период в жизни человека. А наиболее ярким эпизодом учебы всегда было студенческое общежитие.

Недавно корреспондент «ГС» посетила слонимские студенческие общежития и выяснила, что основной бытовой проблемой там является отсутствие горячей воды. Без перебоев она бывает только в ПТУ-129 текстильщиков. В общежитии же ПТУ-189 принять душ можно только в определенные часы (в 5-этажном здании всего две душевые комнаты и горячая вода подается по расписанию). На вопрос, можно ли пользоваться в комнатах электроприборами, студентка III курса ПТУ-189 ответила:

—И магнитофоны, и телевизоры, и другие бытовые электроприборы разрешены, только вот розеток в комнатах у нас нет!

В одном из общежитий Жировичского совхоза-техникума, где побывала журналистка, ситуация выглядит «еще лучше». Вот что ей рассказали по этому поводу сами ребята, учащиеся IV курса:

—Горячая вода есть, но очень редко и то по выходным дням, и не во всех комнатах. Хоть душ установлен в каждом блоке, но он не работает. Однажды мы попробовали у себя помыться — и затопили тех, кто живет под нами. С тех пор воспитатель запретил пользоваться душем.

А то, что рассказали корреспонденту учащиеся медучилища, вообще не поддается осмыслению: горячей воды там нет, титан сломан, душ не работает, в комнатах холодно, газ в баллонах для плит быстро заканчивается и по несколько дней студентам приходится сидеть на сухом пайке.

Тем не менее, не смотря на все неудобства, жизнь в общежитии остается самым лучшим воспоминанием молодых людей.

**Светлана КУПИЧ**

## РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ – РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ – РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ

### МАРШРУТ №1

*по рабочим дням*

**«Вокзал»:** 6.55, 7.55, 8.55, 9.55, 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55.

**«Рязановщина»:** 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 13.25, 14.25, 15.25, 16.25, 17.25, 18.25, 19.25.

**«Спутник»:** 6.14, 7.08, 8.08, 9.08, 13.08, 14.08, 15.08, 16.08, 17.08, 18.08, 19.08.

**«Площадь Ленина»:** 6.40, 7.40, 8.40, 9.40, 13.40, 14.40, 15.40, 16.40, 17.40, 18.40, 19.40.

*по выходным дням*

**«Вокзал»:** 6.55, 7.55, 8.55, 9.55, 10.55, 11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55.

**«Рязановщина»:** 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 11.25, 12.25, 13.25, 14.25, 15.25, 16.25, 17.25, 18.25. 19.25.

**«Спутник»:** 6.14, 7.08, 8.08, 9.08, 11.08, 12.08, 13.08, 14.08, 15.08, 16.08, 17.08, 18.08, 19.08.

**«Площадь Ленина»:** 6.40, 7.40, 8.40, 9.40, 10.40, 11.40, 12.40, 13.40, 14.40, 15.40,16.40, 17.40, 18.40.

### МАРШРУТ №3

*по рабочим дням*

**«МРЗ»:** 6.10, 6.45, 7.15, 7.45, 8.15, 8.45, 9.15, 9.45, 10.13, 10.50, 11.50, 12.50, 13.50, 14.50, 15.20, 15.50, 16.20, 16.50, 17.20, 17.50, 18.20, 18.50, 19.18, 19.50, 20.50, 21.50.

**«Больница»:** 6.45, 7.15, 7.45, 8.15, 8.45, 9.15, 10.20, 11.20, 12.20, 13.20, 14.20, 15.20, 15.50, 16.20, 16.50, 17.20, 17.50, 18.50, 19.20, 20.20, 21.20.

*по выходным дням*

**«МРЗ»:** 6.10, 6.45, 7.45, 8.45, 9.45, 11.20, 12.20, 13.20, 14.20, 15.20, 16.20, 17.20, 18.20, 19.50, 20.50, 21.50, 22.25.

**«Больница»:** 7.15, 8.15, 9.15, 10.50, 11.50, 12.50, 13.50, 14.50, 15.50, 16.50, 17.50, 19.20, 20.20, 21.20.

### МАРШРУТ №5

*по рабочим дням*

**«Подлесная»:** 6.10, 6.40, 7.10, 7.40, 8.10, 8.40, 9.10, 9.40, 11.30, 12.30, 13.30, 14.10, 14.40, 15.10, 15.40, 16.10, 16.40, 17.10, 17.40, 18.10, 18.40, 19.10, 20.20, 21.20, 22.20, 23.20, 0.16.

**«СПТУ-189»:** 6.10, 6.40, 7.10, 7.40, 8.10, 8.40, 9.10, 9.40, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 14.40, 15.10, 15.40, 16.10, 16.40, 17.10, 17.40, 18.10, 18.40, 19.10, 19.40, 20.50, 21.50, 22.50, 23.48.

*по выходням дням*

**«Подлесная»:** 6.40, 7.40, 8.40, 9.40, 11.00, 12.00, 13.00, 14.10, 15.10, 16.10, 17.10, 18.10, 19.10, 20.50, 21.50.

**«СПТУ-189»:** 6.10, 7.10, 8.10, 9.10, 11.30, 12.30, 13.30, 14.40, 15.40, 16.40, 18.40, 19.40, 21.20, 22.20.

**«Спутник»:** 6.00, 6.55, 7.55, 8.55, 11.15,

GAZETA SLONIMSKA ІНФАРМ БЮРО Слонімская

# ТЕЛЕФОНЫ РУКОВОДСТВА СТРАНЫ — ТЕЛЕФОНЫ РУКОВОДСТВА СТРАНЫ

**АДМИНИСТРАЦИЯ ПРЕЗИДЕНТА**

Президент Республики Беларусь
Минск, ул. К. Маркса, 38
Лукашенко Александр Григорьевич 222-63-53
Приемная 222-39-32

**РУКОВОДСТВО АДМИНИСТРАЦИИ ПРЕЗИДЕНТА**

Руководитель администрации
Мясникович Михаил Владимирович 222-60-06
Помощник
Дегода Игорь Борисович 222-30-18
Приемная 222-60-06

**СЕКРЕТАРИАТ ПРЕЗИДЕНТА**

Руководитель секретариата—первый помощник президента
Латыпов Урал Рамдракович 222-33-23
Приемная 222-32-84

**ГРУППА ПОМОЩНИКОВ ПРЕЗИДЕНТА**

**ПОМОЩНИКИ ПРЕЗИДЕНТА**

Пилюто Владислав Сергеевич 222-36-72
Приемная 222-35-42
Посохов Сергей Алексеевич 222-33-38
Приемная 222-30-73

**СОВЕТНИКИ-КОНСУЛЬТАНТЫ**

Воронецкий Валерий Иосифович 222-31-45
Макаров Сергей Петрович 222-30-20
Главный специалист
Чалый Сергей Вячеславович 222-34-85

**ОТДЕЛ ГУММАНИТАРНЫХ ПРОБЛЕМ И СВЯЗЕЙ С ОБЩЕСТВЕННЫМИ ОРГАНИЗАЦИЯМИ**

Заместитель Начальника управления-заведующий отдела
Хоровец Валерий Маркович 222-35-57
Советники - консультанты
Гурко Александр Викторович 222-37-26
Винокурова Светлана Петровна 222-38-23

**СЕКТОР ПРОБЛЕМ ОБРАЗОВАНИЯ И КУЛЬТУРЫ**

Главный специалист
Марченко Нина Павловна 222-32-16

**СЕКТОР ПО СВЯЗЯМ С ОБЩЕСТВЕННЫМИ ОРГАНИЗАЦИЯМИ**

Заведующий сектора
Пашковский Георгий Михайлович 222-35-98
Главный специалист
Неронский Владимир Владимирович 222-30-61

**УПРАВЛЕНИЕ КАДРОВОЙ ПОЛИТИКИ**

Начальник управления 222-33-39
Главный инспектор по Гродненской области
Беляев Александр Михайлович 222-31-10

**КОМИТЕТ ПО БОРЬБЕ С КОРРУПЦИЕЙ В ОРГАНАХ ГОСУДАРСТВЕННОЙ ВЛАСТИ**

Заместитель начальника управления-председатель комитета
Карпиевич Николай Федорович 222-37-11
Приемная 222-38-68
По Гродненской области
Начальник управления
Танкович Олег Вячеславович 5-96-47

**УПРАВЛЕНИЕ ПО ВОПРОСАМ ГРАЖДАНСТВА, ВОЗНАГРАЖДЕНИЙ И ПОМИЛОВАНИЙ**

Начальник управления
Шипко Александр Евгеньевич 222-35-03
Приемная 222-30-49
Заведующий отделом
Самусев Владимир Парфирьевич 222-32-64

**ОТДЕЛ ПО РАБОТЕ С ОБРАЩЕНИЯМИ ГРАЖДАН**

Заведующий отделом
Бондарева Анна Федоровна 222-35-37
Заместитель
Семилетникова Евгения Витольдовна 222-30-68

**СЕКТОР ПИСЕМ**

Заведующий сектора
Смолякова Наталья Петровна 222-37-19

**СЕКТОР ОРГАНИЗАЦИИ ПРИЕМА ГРАЖДАН, ул. Кирова, 43.**

Заведующий сектором
Сидорович Степан Константинович 222-31-64

**УПРАВЛЕНИЕ ОХРАНЯЕМЫХ ТЕРРИТОРИЙ, ЛЕСНОГО И СЕЛЬСКОГО ХОЗЯЙСТВА**

Начальник управления
Лучков Александр Иванович 222-38-75

**СЕКТОР СЕЛЬСКОГО ХОЗЯЙСТВА И ПЕРЕРАБОТКИ ПРОДУКЦИИ**

Заведующий сектором
Попов Валерий Николаевич 222-38-09

**СЕКТОР ОРГАНИЗАЦИИ ТУРИЗМА И ОХОТЫ**

Главный специалист
Сельвонюк Алексей Михайлович 222-31-25

## МИНИСТЕРСТВА И ВЕДОМСТВА

**МИНИСТЕРСТВО СОЦИАЛЬНОЙ ЗАЩИТЫ 220010, ул. Советская, 9**

Министр
Даргель Ольга Брониславовна 222-69-90
Помощник министра
Чепикова Валентина Федоровна 222-62-88
Референт министра
Осипова Тамара Павловна 222-62-55
Первый заместитель министра
Беспалов Геннадий Сергеевич 222-65-14
Заместитель министра
Сикорский Петр Павлович 222-68-33
Заместитель министра
Казак Василий Иосифович 220-56-25
Заместитель министра, руководитель Фонда социальной защиты
Бачило Людмила Тимофеевна 239-48-09
Начальник управления пенсий и пособий
Шавловская Наталья Николаевна 220-49-87
Начальник управления по делам военнослужащих, воинов-интернационалистов и членов их семей
Шетько Павел Вадимович 220-17-65

**ПРОКУРАТУРА 220849, ул. Интернациональная, 22.**

Генеральный прокурор
Божелко Олег Александрович
226-41-66 (приемная)

**ВЕРХОВНЫЙ СУД 220681, ул. Ленина, 28.**

Председатель
Сукало Валентин Олегович
226-12-06 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ И НАУКИ 220010, ул. Советская, 9.**

Министр
Стражев Василий Иванович
227-47-36 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА**

220039, ул. Мясникова, 39.
Министр
Зорин Валентин Павлович 224-47-05

**МИНИСТЕРСТВО ПРИРОДНЫХ РЕСУРСОВ И ОХРАНЫ ОКРУЖАЮЩЕЙ СРЕДЫ 220048, ул. Коллекторная, 10.**

Министр
Русый Михаил Иванович
220-66-91 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО ПО ЧРЕЗВЫЧАЙНЫМ СИТУАЦИЯМ И ЗАЩИТЕ НАСЕЛЕНИЯ ОТ ПОСЛЕДСТВИЙ КАТАСТРОФЫ НА ЧЕРНОБЫЛЬСКОЙ АЭС 220030, ул. Ленина, 14.**

Министр
Кеник Иван Альбинович
276-85-96 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО СВЯЗИ 220050, пр. Скорины, 10.**

Министр
Гончаренко Владимир Иванович
227-21-57 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО ЖИЛИЩНО-КОММУНАЛЬНОГО ХОЗЯЙСТВА, 220640, ул. Берсона, 16.**

Министр
Батура Борис Васильевич
220-15-45 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО ОБОРОНЫ**

Министр
Чумаков Александр Петрович
233-03-52, 233-12-34, 239-23-77

**МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ**

Министр
Аголец Валентин Степанович
229-75-96, 229-78-08, 229-75-55

**МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ**

220084, ул. Коллекторная, 10 220-96-84, 220-97-55

**КОМИТЕТ ГОСУДАРСТВЕННОЙ БЕЗОПАСНОСТИ, 220623, пр-кт Скорины, 17.**

Председатель
Мацкевич Владимир Александрович
229-94-01 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО ТОРГОВЛИ**

220050, пр-кт Машерова, 23.
Министр Козлов Петр Афанасьевич 227-61-21

**МИНИСТЕРСТВО ТРАНСПОРТА И КОММУНИКАЦИЙ**

Министр Лукашев Александр Васильевич
296-43-64

**МИНИСТЕРСТВО СЕЛЬСКОГО ХОЗЯЙСТВА И ПРОДОВОЛЬСТВИЯ, 220050, ул. Кирова, 15**

Министр
Леонов Василий Севастьянович 227-37-51

**МИНИСТЕРСТВО ТРУДА, 220050, пр-кт Машерова, 23**

Министр
Лях Иван Алексеевич
223-45-21 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ, 220617, пр-кт Машерова, 11**

Министр
Сосновский Александр Владимирович
223-75-74 (приемная)

**МИНИСТЕРСТВО ЗДРАВООХРАНЕНИЯ**

Министр
Дробышевская Инесса Михайловна 222-60-95

**БЕЛОРУССКАЯ РЕСПУБЛИКАНСКАЯ АССОЦИАЦИЯ «ИНВАЛИДЫ ЧЕРНОБЫЛЯ» (БРА «ИНВАЛИДЫ ЧЕРНОБЫЛЯ»),**
220030, г. Минск, ул. Ленина, 14.

**БЕЛОРУССКИЙ ФОНД БЕЗОПАСНОСТИ ДОРОЖНОГО ДВИЖЕНИЯ (ФОНД БДР)**
220615, г. Минск, ул. Городской вал, 4 236-40-70

**БЕЛОРУССКАЯ ОРГАНИЗАЦИЯ ВЕТЕРАНОВ ОРГАНОВ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ,**
220050 г. Минск, ул. Городской вал, 4/132
236-10-16

**БЕЛОРУССКАЯ РЕСПУБЛИКАНСКАЯ АССОЦИАЦИЯ ПОИСКА И УВЕКОВЕЧИВАНИЯ ПАМЯТИ ЗАЩИТНИКОВ ОТЕЧЕСТВА И ЖЕРТВ ВОЙН «ПОИСК»**
210602, г. Витебск, пр. Фрунзе, 94.

**БЕЛОРУССКОЕ КАТОЛИЧЕСКОЕ ОБЩЕСТВО**
220113, г. Минск, ул. Восточная, 54/213.

**КАНЦЕЛЯРИЯ МИНСКОГО ПАТРИАРХАЛЬНОГО УПРАВЛЕНИЯ ФИЛАРЕТА**
223-25-05, 223-25-70 (секретарь управления)

**НАЦИОНАЛЬНЫЙ АРХИВ БЕЛАРУСИ**
220030, г. Минск, ул. Кирова, 43 229-32-14

**ГОСАРХИВ ГРОДНЕНСКОЙ ОБЛАСТИ**
230005, г. Гродно, ул. Дзержинского, 84 44-83-94

# РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ — РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ — РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ

12.15, 13.15, 14.25, 15.25, 16.25, 18.25, 19.25, 21.05, 22.05.

**«Площадь Ленина»:** 6.23, 7.23, 8.23, 9.23, 10.43, 11.43, 12.43, 13.43, 14.53, 15.53, 16.53, 17.53, 18.53, 20.38, 21.33.

## МАРШРУТ №6

*по рабочим дням*

**«Спутник»:** 6.10, 6.32, 6.55, 7.17, 7.40, 8.02, 8.25, 8.47, 9.10, 9.32, 10.00, 11.18, 12.03, 12.33, 13.03, 13.33, 14.18, 15.03, 15.25, 15.48, 16.10, 16.33, 16.55, 17.10, 17.40, 18.03, 18.25, 18.48, 19.10, 20.12, 20.57, 21.42, 22.27.

**«КПФ»:** 6.33, 6.55, 7.18, 7.40, 8.03, 8.29, 8.48, 9.10, 14.45, 15.25, 16.10, 16.33, 16.53, 19.40.



**«МРЗ»:** 9.38, 10.00, 10.18, 11.46, 12.19, 12.49, 13.19, 14.00, 15.53, 17.23, 17.40, 18.08, 18.30, 18.53, 19.15, 20.39, 21.24, 22.09, 22.55.

*по выходным дням*

**«Спутник»:** 8.10, 8.45, 9.18, 9.50, 10.23, 11.45, 12.25, 13.00, 14.15, 14.45, 15.15, 15.45, 16.15, 16.45, 17.15, 18.15, 18.45, 19.15.

**«МРЗ»:** 8.29, 9.02, 9.35, 10.08, 10.40, 12.10, 12.45, 13.30, 14.30, 15.03, 15.30, 16.03, 16.30, 17.03, 17.30, 18.30, 19.03, 19.30.

## МАРШРУТ №7

*по рабочим дням*

**«Спутник»:** 5.50, 6.03, 6.20, 6.43, 7.02, 7.23, 7.44, 8.05, 8.26, 8.47. 9.08, 9.29, 10.11, 11.33, 12.15, 12.57, 13.39, 14.21, 14.42, 15.24, 15.45, 16.06, 16.27, 16.48, 17.10, 17.30, 17.52, 18.12, 18.34 ,19.00, 19.30, 20.16, 20.58, 21.40, 22.22, 23.04, 23.43, 0.22.

**«Агропромтехника»:** 6.03, 6.20, 6.43, 7.06, 7.25, 7.46, 8.07, 8.28, 8.49, 9.10, 9.31, 9.52, 10.34, 11.56, 12.38, 13.20, 14.02, 14.44, 15.05, 15.47, 16.08, 16.29,16.50, 17.11, 17.32, 17.53, 18.14, 18.35, 18.56, 19.20, 19.50, 20.39, 21.21, 22.03, 22.45, 23.27, 0.06, 0.43.

*по выходным дням*

**«Спутник»:** 5.50, 6.20, 7.02, 7.44, 8.26, 9.08, 9.53, 10.30, 11.12, 11.54, 12.39, 13.18, 14.00, 14.42, 15.27, 16.10, 16.55, 17.39, 18.39, 19.47, 20.27, 21.09, 21.46, 22.22.



# Літаратурны Ветразь

*Анатоль ІВЕРС*

### Міражы

На крутым рубяжы
Прыгнятальнік дрыжыць:
Тым, хто быў на крыжы,
Хоць ты нешта ліжы.
Мовай хто даражыў,
Пахвальбы не кажы,
Хоць без лекаў ляжыць,
Хоча смерць пераажыць.
Табе сняцца вужы
І разбой, крадзяжы.
Будзе воран кружыць,
Дык пакінь варажыць.
На крутым рубяжы
Лопне дзікі рэжым.
Хоць мігцяць міражы,
Прыгнятальнік, дрыжы!

### Пра каня

Прыйшлі саветы даканаць
Спрадвеку нашу гаспадарку.
І першай справай да каня:
Ў агул! Каб не вісеў на карку.

Пайшоў з хлява наш конь у гурт,
Вазіў калгасных верхаводаў.
Той здзек забыць я не магу,
Як і стаяць таксама воддаль,

Каня ў сям'і любілі ўсе
(Не дапускаю быць іначай),
Ледзь голас вецер данясе,
Заржэ і спутаны ўжо скача.

З канём сустрэўся, як калісь,
Тады ізноў па дружбе звыклай
Загаварыў і ласку выклаў,
А ён панік, як мокры ліст...

Ледзь сэрца вытрымала здзекі
Пад гучнай назвай «дабрабыт».
Мо засцярог выпадак нейкі,
Каб да жывёлы добрым быць?

Пазнаў каня даволі рана
(Служыў у войску я тады),
Калі насіў шынель улана,
Ляцеў то ў полымя, то ў дым.

І вось цяпер мне сніцца конік,
Нібы вясной ару загон,
То на кані імчуся – коннік! —
Людскому шчасцю наўздагон.

### Вішня

Неяк з ночы нечакана
Расквітнела вішня,
Бы дзяўчына ля паркана
Ў белым плацці выйшла.

І на той прывабны колер
Шуганулі пчолы.
І паплыў у наваколле
Ціхі звон вясёлы.

На чужыне дзень вясновы
Жаваранак высніў,
Прыляцеў вітаць абновы
З паднябеснай высі.

А ўсё сонца акрыліла
З уладанняў вышніх.
Яно птушцы дало сілу,
Дало сілу вішні.

Вось каб доля каласіла,
Каб квітнела рутай!
Хто ў народа забраў сілу,
Хай яму атрута.



Залатая восень у слонімскім парку

*Клавдия ЩЕРБАКОВА*

* * *

Сон голубой уносил меня в милые дали,
Ветер весенний стучался в родное окно,
Не узнаете? Я — странница под небесами.
Руку пожмете? Тогда я взойду на крыльцо.
Чуть задевая намокшие ветки сирени
(Куст уж лиловый, разросшись, касался перил),
Тихо ступлю на веранду, стрекозы взлетели,
Блюдце варенья душистого кто-то налил.
Мальчик белесый из комнаты выглянул. Дальше —
Гомон услышала я. Наконец:
«Что вам угодно? Ведь кажется, кажется раньше
Мы и не видели вас. А теперь...
Ах, это ваши родители здесь проживали...
Но... Вы не слышали? Нет их уже на земле,
В белом кувшине подснежники вдруг задрожали...
Мама!.. Отец! Спохватилась. Ведь это во сне.

*Людміла АСТАПАВА*

### Бывай

Заву цябе ціха
Успомні мяне —
І я адгукнуся.
Не хочаш? Дык не.
Пайду і спынюся,
Зірнуўшы назад.
Чакаеш? Вярнуся.
Квітнее наш сад...
І як адгалоссе
«трымайся», «трывай».
І падаюць зоркі
З адзіным «Бывай».

***

І зоркі на небе
Мігаць - зіхацяць.
Балюткія промні
Ляцяць і ляцяць.
Міргае на золку
І ціха заве
Апошняя зорка...
На жоўтай траве
Раскідана лісце,
Гарыць вугалёк,
Як быццам чакае
Кагосьці здалёк:
То з'явіцца раптам,
То зноў прападзе...
І месяц на небе
Сумуе радзей,
Зірне і з надзеяй:
Ці прыйдзе ці не.
—І я на світанні
Прачнуся раней.

*Алег ЛОЙКА*

### Каэфіцыент эгаізму

—Каэфіцыент эгаізму,
Ад чаго залежыш ты?..
—Не ад арганізма —
Ад вяршыні дабраты;
Не ад групы крыві —
З-пад рук у іншых не рві;
Не ад злой у двары сабакі —
Ад страты пачуцця падзякі;
Не ад тэорыі імавернасці —
Ад страты пачуцця, вернасці;
Не ад суровай неабходнасці —
Ад страты чалавечай годнасці
На грош, капейку, шылінг, цэнт...
Самы паганы каэфіцыент!..

*Мікола КАНАНОВІЧ*

### Статкавы інстынкт

Дамінуе статкавы інстынкт.
Пастухі на гэтым грэюць рукі.
Невылечна - хворы «інквізіт»
Корміць сумленнікамі суку.
Быць не хоча трактар тым, чым ёсць,
(Хуткасці, ці бачыце, замала)
Як каню, накінуўшы аброць,
Трактарыста вучыць есці сала.
Сала — тлустасць. Трэба запіваць.
Праганяе смагу дзядзька ўдала:
Два буслы і тыя клекатаць
не змаглі б ад гэтулькі стаканаў.
А ён заўтра ўстане і — араць,
Ды каб болей выгнаць за суседа,
Бо пастух за гэта можа даць
Прэмію ці вымпел сельсавета...
Пруць ва ўсім навыперадкі ўсе,
(Дзесьці быць павінна добрай паша!)
І як дол у скоцкім майдане
Выглядаць дзяржава стала наша.

### Адсутнасць

Быццам мяне няма ...
Тэлефон камунальны
Ад цямна звініць да цямна,
Аж трасецца бярлог мой спальны.
Не мяне клічуць, як не пні,
Ні па справе, ні на спатканне ...
Адно добра: ні ў цішыні
Вар'яцець пачынаю зрання.

*Іван КАРПОВІЧ*

### Мая каханая

Карыя вочы, любыя вочы,
Вочы — крыніцы, азёры...
Колькі ў вас святасці, мілыя вочы,
Нібы гавораць анёлы.
Чорныя бровы, бровы-падковы,
Як вы да твару каханай!..
Колькі ў вас міласці, колькі любові,
Як тут не быць ёй адданым.
Чорныя, пышныя, доўгія косы,
Косы-пракосы, дарогі...
Мёдам пахучыя, у сэрца пякучыя,
Божа, дай сілы, падмогі.
А як зайскрацца цёплыя вусны
Шчырай, гаючай усмешкай...
Як не хацець тут, Божа мой мілы,
Крочыць шчасліваю сцежкай.

*— З літаратурнай спадчыны —*

*Гальяш ЛЕЎЧЫК*
*(1880-1944)*

## НА СЛЕДСТВЕ

Следчы суддзя робіць агляд месца, дзе было зроблена злачынства, а яго пісар запісвае ў пратакол: «... на стале знайшлі бутэльку з «зуброўкай»...».

—Э, пачакайце, — кажа следчы, — трэба ж пакаштаваць, ці тут сапраўдная «зуброўка»? Гэта вельмі важна для справы.

Пакаштаваў і кажа:

—Пішыце, што ў бутэльцы была «зуброўка».

—Не, гэта, здаецца, не «зуброўка», а «пярцоўка»,— кажа пісар і глытае з бутэлькі.

—Не можа быць?!— здзівіўся следчы і яшчэ раз прылажыўся да пітва.

—А што? «Пярцоўка», — стараўся перапанаць яго пісар і яшчэ раз глынуў са смакам.

Пацісну плячыма следчы ды кажа:

—Пішыце ў пратакол, што на стале знайшлі парожнюю бутэльку і ніяк не маглі даведацца, што ў ёй было.

## СТРАХОЎКА НА ПРЫПАДАК

Страхавы агент:

—Вось калі вы памрэце, дык тады мы выплацім сорак тысяч злотых.

—Слаўна, слаўна. Вось тады, прынамсі, буду жыць па-панску.

## ПАЛІТЫКІ

—Але ж я кажу табе, калі Францыя таго, дык Нямеччына гэтага, й годзе!

—Э, што ты разумееш ! Я лепш ведаю: бо Англія нібыта так сабе, а Нямеччына так ці сяк, дык тагды Францыя ні тое ні сёе, а пра Польшчу і казаць няма чаго!

Старонку падрыхтаваў
**Сяргей ЧЫГРЫН**

## РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ – РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ – РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ

**«Агропромтехника»:** 6.03, 6.43, 7.25, 8.07, 8.49, 9.31, 10.12, 10.53, 11.35, 12.17, 12.59, 13.41, 14.23, 15.05, 15.50, 16.35, 17.18, 18.10, 18.59, 20.08, 20.50, 21.30, 22.05, 22.45.

### МАРШРУТ №8

*по рабочим дням*

**«Площадь Ленина»:** 6.35, 7.05, 7.35, 8.05, 8.35, 9.05, 9.35, 11.15, 12.15, 13.15, 14.15, 15.15, 15.45, 16.15, 16.45, 17.15, 17.45, 18.15, 18.45, 19.15, 19.45. 21.00, 22.00, 22.55, 0.10.

**«Звездная»:** 6.03, 6.33, 7.03, 7.33, 8.03, 8.33, 9.03, 9.33, 10.03, 11.43, 12.43, 13.43, 14.43, 15.43, 16.13, 16.43, 17.13, 17.43, 18.13, 18.43, 19.13, 19.43, 20.25, 21.25, 22.25, 23.25, 0.35.



*по выходным дням*

**«Площадь Ленина»:** 7.05, 8.05, 9.05, 10.45, 11.45, 12.45, 13.45, 14.45, 15.45, 16.50, 17.45, 19.25, 20.25, 21.25, 22.35.

**«Звездная»:** 6.33, 7.33, 8.33, 9.33, 11.13, 12.13, 13.13, 14.13, 15.13, 16.13, 17.13, 18.33, 19.53, 20.53, 22.05, 23.00.

### МАРШРУТ №10

*по рабочим дням*

**«Площадь Ленина»:** 6.55, 7.55, 8.55, 10.45, 11.45, 12.45, 13.45, 14.45, 16.00, 17.00, 18.00,19.00.

**«Санаторная школа-интернат»:** 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 11.15, 12.15, 13.15, 14.15, 15.15, 16.30, 17.30, 18.30, 19.30.

*по выходным дням*

**«Площадь Ленина»:** 6.55, 7.55, 8.55, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00.

**«Санаторная школа-интернат»:** 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 11.30, 12.30, 13.30, 14.30, 15.30, 16.30, 17.30, 18.30, 19.30.

### МАРШРУТ №11

**«Рыщицы-2»:** 7.17, 8.15, 9.20, 10.50, 11.50, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.05, 20.05.

**«Магазин «Дружба»:** 6.48, 7.45, 8.40, 9.50, 11.20, 12.30, 13.30, 14.35, 15.30, 16.30, 17.30, 18.40, 19.35, 20.35.

